ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 45–46
(2603–2604)

19 лістапада 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 2000 рублёў.

* ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ *

## ДЫЯЛОГ З ЧЫТАЧОМ. ПРАЦЯГ БУДЗЕ

● **Сяргей КАРТЭС,**
**старшыня таварыства "Радзіма", кіраўнік Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра оперы Беларусі:**

— Жыццё прадугледзела натуральны працэс — змену пакаленняў. Такі момант настаў і для калектыву рэдакцыі газеты "Голас Радзімы". Людзі, якія некалькі дзесяцігоддзяў вялі дыялог з суайчыннікамі, воляй лёсу адарванымі ад Бацькаўшчыны, саступілі месца новаму пакаленню журналістаў. У такі момант вельмі важна не адысці ад традыцый, якія вызначаюць твар газеты, і ў той жа час адпавядаць сучаснасці...

Некалі газета "Голас Радзімы" адыграла значную ролю ў маім лёсе. Яна дапамагла мне знайсці Радзіму. Наша сям'я была ў эміграцыі ў Аргенціне. Там у 1955 годзе мне ў рукі трапіў нумар вашай газеты, якая пераконвала, што вяртанне на Радзіму магчымае. Мы паверылі газеце і не памыліліся. І хоць нашы карані былі ў Маскве і Санкт-Пецярбургу, мы вырашылі прыехаць на Беларусь.

Кола часу няспыннае. Недзе ў далёкіх краінах выраслі новыя пакалені людзей, якія лічаць сябе беларусамі. Маладыя інакш успрымаюць свет, чым іх бацькі, але ў пэўнай меры адчуваюць сябе спадкаемцамі. Жадаю газеце пашырыць кола чытачоў, знайсці агульную мову з усімі пакаленнямі беларусаў замежжа, якія зацікаўлены ва ўмацаванні Беларускага дома.

● **Ніл ГІЛЕВІЧ,**
**народны паэт Беларусі, прафесар:**

— Разгортваючы "Голас Радзімы", асабіста я не трымаю ў памяці, што газета адрасуецца перш за ўсё нашым суайчыннікам за межамі Беларусі, мне проста цікава чытаць тое, што ў ёй змешчана. Вось я і хацеў бы, каб такі яе курс і такі характар выяўляўся і сцвярджаліся ў далейшым яшчэ больш пераканаўча.

Справа ў тым, што сама назва "Голас Радзімы" да многага абавязвае. І калі ўдумацца, дык гэта выданне павінна быць адным з самых значных і аўтарытэтных у рэспубліцы, да якога нельга не прыслухацца. Гэта ж голас Бацькаўшчыны, тваёй краіны, калі хочаце, — голас Маці, яе вялікай і шчырай душы. Ніякіх фальшывых непраўдзівых нотак у ім быць не можа. І нічога пустога, дробязнага, а тым больш пошлага, — таксама. Павага да чытачоў, самапавага, наогул высокае пачуццё годнасці — гэтага я зычу вам, супрацоўнікам і аўтарам "Голасу Радзімы".

● **Адам МАЛЬДЗІС,**
**прафесар, доктар філалагічных навук, дырэктар цэнтра імя Ф. Скарыны:**

— У Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Францішка Скарыны існуе банк інфармацыі па гуманітарных навуках. У ім знаходзяцца многія перыядычныя выданні, каб рабіць падборкі для тэматычных даследаванняў. Побач з такімі выданнямі, як "Літаратура і мастацтва" і "Беларускі гістарычны часопіс", у нас знаходзіцца газета "Голас Радзімы". Я думаю, што "Голас Радзімы" — адно з самых інфармацыйных выданняў Беларусі.

Да гэтага часу ў ім добра ўлічвалася спецыфіка: газета адрасавана чытачу, выхаванаму не на савецкай ментальнасці. Для зарубежных суайчыннікаў было б дзіўна і незразумела, калі б газета згубіла сваё аблічча. Няхай яна застаецца сама сабой.

● **Уладзімір ПРАКАПЦОЎ,**
**дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, кандыдат мастацтвазнаўства:**

— Газета "Голас Радзімы" раней была адзіным выданнем, што несла голас Бацькаўшчыны да замежных суайчыннікаў. Менавіта праз гэтую газету нашы землякі ў далёкім замежжы маглі адчуць, чым жыве родная Беларусь. І, нягледзячы на пэўную ідэалагічную манаполію ў тыя часы, газета, на маю думку, знайшла сваю "нішу" ў асвятленні як палітычных, так і сацыяльна-культурных падзей у рэспубліцы. Асаблівую цікавасць выклікалі матэрыялы па гісторыі, культуры і мастацтву, многія з якіх упершыню друкаваліся менавіта ў "Голасе Радзімы". У рэдакцыі склалася пэўнае кола добрых аўтараў, у тым ліку і маладых. Сярод так званых пачаткоўцаў калісьці быў і я. Супрацоўнікі газеты вельмі ўважліва і беражліва ставіліся да нашых артыкулаў. Гэта вабіла.

Мне падаецца правільнай сённяшняя пазіцыя газеты "Голас Радзімы", калі на яе старонках змяшчаецца шмат матэрыялаў з асабістымі думкамі дзеячаў культуры і навукі ў форме інтэрв'ю.

Спадзяюся, і надалей "Голас Радзімы" застанецца добрым матчыным голасам, голасам дарадчым і праўдзівым.

*ПОСТАЦІ СЛАВУТЫХ ПРОДКАЎ*

## ІГНАТ КУЛЬЧЫНСКІ — ПЕРШЫ ДАСЛЕДЧЫК БЕЛАРУСКІХ СТАРАЖЫТНАСЦЕЙ

● **Алесь МАРЦІНОВІЧ**

НА ВЫСОКІМ узгорку, над самым Нёманам, узвышаецца Каложская царква. Даўно стаіць і быццам заўсёды стаяла, даючы тым, хто завітае ў яе сцены, душэўны паратунак і маральнае ачышчэнне. Шмат пабачыў Ігнат Кульчынскі гожых храмаў, неаднойчы і ў розных месцах любаваўся тварэннем таленту і рук вядомых і невядомых дойлідаў, а трапіў у Гродна — спадабалася яна. Канечне, Каложскую царкву нельга параўнаць са знакамітымі храмамі, культавымі будынкамі Рыма, дзе даводзілася пражыць яму не адзін год, вывучаць гісторыю царквы, шмат пісаць і выдаваць багаслоўскія працы, набыць званне доктара багаслоўя... У многім прайграе яна ў параўнанні з Полацкай Сафіяй, але ўдалае размяшчэнне надае ёй прыцягальную сілу.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## Мінск, Захарава, 28. Дом дружбы.

ГЭТЫ АДРАС ВЯДОМЫ МНОГІМ СЯБРАМ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ДРУЖБЫ І КУЛЬТУРНАЙ СУВЯЗІ З ЗАРУБЕЖНЫМІ КРАІНАМІ. НОВАЯ РУБРЫКА БУДЗЕ ПАВЕДАМЛЯЦЬ АБ ТЫМ, ШТО ВЫЗНАЧАЕ НАСЫЧАНАЕ ЖЫЦЦЁ ДОМУ ДРУЖБЫ.

Стар. 5.

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Ужо сорак гадоў жывуць разам Пётр і Кацярына МУЗЫЧЭНКІ. Усяго пабачылі яны на доўгім шляху. Але, як і заўсёды, з надзеяй чакаюць новай вясны.

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.*

*НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ*

**Янка ЗАПРУДНІК:**

## «ТРЭБА ПАМЯТАЦЬ: ЗЯМЛЯ ПРОДКАЎ ЗАЎСЁДЫ КЛІЧА НАС, І ТРЭБА БЫЦЬ ЁЙ ВЕРНЫМІ»

Стар. 3.

## ДАПАМОГА З БЕЛАРУСІ БЫЛА З УДЗЯЧНАСЦЮ ПРЫНЯТА РУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВОЮ

**Сардэчную падзяку за пастаўку прадуктаў харчавання для манастыроў, сястрыцтваў, Свята-Ціханаўскага багаслоўскага інстытута і іншых установ Рускай Праваслаўнай Царквы выказаў у сваім пісьме да Прэзідэнта нашай краіны Аляксандра Лукашэнкі Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Аляксій II. "Ажыццёўленая па Вашай ініцыятыве гуманітарная місія — яркае сведчанне брацкага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі і народамі", — гаворыцца ў пасланні.**

**Цёплыя словы ўдзячнасці атрыманы з манастыроў Спаса-Праабражэнскага Салавецкага, Данскога, Свята-Нікольскага Угрэшскага, Свята-Пакроўскага жаночага, Зачацьеўскага жаночага, Спаса-Праабражэнскага Валаамскага, а таксама ад шэрагу сястрыцтваў Рускай Праваслаўнай Царквы і ад Свята-Ціханаўскага багаслоўскага інстытута.**

**У гэтых пісьмах адзначаецца, што прысланыя беларусамі прадукты харчавання выкарыстоўваюцца для таго, каб накарміць найбольш малазабяспечаных людзей, а таксама сірот, хворых, інвалідаў і старых. У многіх прыходах дзякуючы дабрачыннай дапамозе з Беларусі ўдалося вырашыць харчовую праблему.**

*ВІЗІТЫ*



**Далейшыя перспектывы развіцця адносін паміж Міжнародным валютным фондам і нашай краінай былі разгледжаны ў ходзе сустрэчы прэм'ер-міністра Беларусі Сяргея Лінга з кіраўніком місіі Томасам А. Вульфам.**

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.**

*Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.*

## ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА І ПРАБЛЕМЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ

**Гэтае пытанне пастаянна знаходзіцца ў цэнтры ўвагі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Толькі на працягу апошняга месяца пад эгідай АБСЕ і Камісара па нацыянальных меншасцях прайшло некалькі значных мерапрыемстваў, у якіх прынялі ўдзел і прадстаўнікі Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі.**

**Старшыня камітэта Аляксандр Більык выступіў на міжнароднай канферэнцыі АБСЕ "Інтэграцыя і разнастайнасць", прысвечанай праблемам рэалізацыі правоў нацыянальных меншасцей органамі выканаўчай улады, якая праходзіла ў швейцарскім горадзе Лакарна.**

**Прадстаўнік Беларусі спыніўся на практыцы работы органаў выканаўчай улады па рэалізацыі правоў нацыянальных супольнасцей, якія знаходзяцца ў нашай краіне, у галіне культуры і адукацыі.**

**У выступленнях дэлегатаў краін СНД рабіліся спасылкі на вопыт Беларусі па захаванню ў грамадстве міжнацыянальнай згоды. Канферэнцыя дала магчымасць яшчэ раз упэўніцца, што ў вырашэнні нацыянальных праблем на Беларусі аптымальна ўлічваюцца як агульнаеўрапейскія прынцыпы дэмакратыі, так і спецыфічныя мясцовыя асаблівасці.**

**Намеснік старшыні Дзяржкамітэта Іван Яновіч прыняў удзел у штогадовай нарадзе Бюро па дэмакратычных інстытутах АБСЕ па чалавечаму вымярэнню, якая адбылася ў Варшаве. Удзельнікі нарады разгледзелі пытанні рэалізацыі правоў чалавека, у тым ліку і правоў нацыянальных меншасцей.**

**Трагічныя наступствы міжнацыянальных канфліктаў у Еўропе, аб якіх гаварылі ўдзельнікі нарады, служаць папярэджаннем для іншых краін. У гэтай сітуацыі традыцыі нацыянальнай згоды на Беларусі набываюць усё большае значэнне.**

**Ніна ТУР.**

## ДАМОЎЛЕНАСЦІ АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ

**Падпісаннем міжурадавага пагаднення паміж Рэспублікай Беларусь і Турэцкай Рэспублікай аб супрацоўніцтве ў галіне абароннай прамысловасці завяршыўся візіт у нашу краіну віцэ-прэм'ера турэцкага ўрада і міністра нацыянальнай абароны гэтай краіны Ісмета Сезгіна. Разам з госцем гэтае пагадненне падпісаў беларускі міністр абароны Аляксандр Чумакоў.**

**— Расшырэнне НАТО на Усход — гэта ўжо сённяшнія рэаліі. Рэспубліка Беларусь і НАТО будуць мець агульную граніцу. І мы праводзім палітыку, каб краіны, якія далучаюцца да НАТО, у прыватнасці Польшча, не размяшчалі на сваёй тэрыторыі сродкі ядзернага нападу, не ўтваралі новыя вайсковыя фарміраванні і ваенную інфраструктуру. Наша ж дактрына — гэта палітыка адкрытасці, davеру, міралюбства і неўмяшання ва ўнутраныя справы, — падкрэсліў Аляксандр Чумакоў на прэс-канферэнцыі па выніках візіту турэцкага госця.**

## ШВЕЙЦАРСКАЯ ПАДТРЫМКА БЕЛАРУСКІХ АХВЯР НАЦЫЗМУ

**У 520-м філіяле "Беларусбанка" ў Мінску адбылася ўрачыстая цырымонія ўручэння гуманітарнай дапамогі былым вязням фашысцкіх канцлагераў з Беларусі. У ёй прынялі ўдзел кіраўнікі Швейцарскага фонду дапамогі ахвярам Халакоста.**

**— Дапамога часам прыходзіць надта позна. З ліку 609 чалавек, якія былі ў спісах, зацверджаных на атрыманне дапамогі, да пачатку кастрычніка памерлі 173 асобы, — з сумам зазначыў старшыня праўлення Беларускага рэспубліканскага фонду "Узаемаразуменне і прымірэнне" Валянцін Герасімаў.**

**У Беларусі гэты дабрачынны фонд выдзяляе па 400 долараў толькі вязням канцлагераў міжнароднай класіфікацыі, вязням гета і яўрэям, якія хаваліся на акупіраванай тэрыторыі і якія нарадзіліся ў перыяд з 1898 па 1921 год.**

**— Гэта не проста грашовая дапамога, але і выказванне нашых пачуццяў і адносін да людзей, якія пацярпелі ад нацызму, — падкрэсліў прэзідэнт Швейцарскага фонду дапамогі ахвярам Халакоста Рольф Блох.**

## «САНОРУС» + «УНТЭРМАЙН»= ВЯЛІКАЯ МУЗЫКА

**Адна з вяршынь нямецкага кампазітара Г. Ф. Гендэля — араторыя "Месія", напісаная на біблейскія сюжэты, прагучала нядаўна ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі ў цыкле "Вечары царкоўнай музыкі". Выканаўцы — Мінскі абласны камерны хор, аркестр "Санорус" і камерны хор "Унтэрмайн" з нямецкага горада Альцэнау.**

**Творчае супрацоўніцтва паміж гэтымі мастацкімі калектывамі працягваецца больш як шэсць гадоў. У кіраўніка "Унтэрмайна", вядомага харавога дырыжора Готфрыда Кернера і нашага хормайстра Аляксея Шута даўно ўзнікла задума разам падрыхтаваць і выканаць грандыёзную "Месію" Гендэля.**

**Гучала гендэлеўская араторыя не толькі ў філарманічнай зале, але і на сцэне Палаца культуры трактаразаводцаў, у Івянцы і Беразіно.**

## ЯКАСЦЬ ХАРЧАВАННЯ – ЗДАРОЎЕ НАЦЫІ

**Аб бяспецы харчовых прадуктаў і дзяржаўнай палітыцы ў галіне харчавання вялася размова на міжнародным семінары, які прайшоў у Мінску, у канферэнц-зале гасцініцы "Беларусь". У ёй прынялі ўдзел вядучыя сусветныя эксперты ў гэтай галіне. Яны прыехалі ў Беларусь дзякуючы садзейнічанню Міжнароднага інстытута навук аб жыцці. Гэтая некамерцыйная навуковая ўстанова мае свае аддзяленні ў многіх краінах і з'яўляецца членам Сусветнай арганізацыі аховы здароўя.**

**На семінары абмяркоўваліся і апошнія дасягненні ў ацэнцы бяспекі прадуктаў, а таксама навуковыя даследаванні па праблемах харчавання. Па яго выніках будуць выпрацаваны розныя прапановы, якія плануецца накіраваць ва ўрад нашай краіны.**

*АХОВА ЗДАРОЎЯ*



**У санаторыі-прафілакторыі Баранавіцкага аддзялення ўпраўлення Беларускай чыгункі адначасова могуць папраўляць здароўе сто чалавек, а пасля ўводу ў строй новых карпусоў колькасць наведвальнікаў павялічыцца да 250 чалавек.**

**Аздараўленчая ўстанова мае сучасную дыягнастычную і лячэбную апаратуру. Умацаванню здароўя адпачываючых садзейнічае сауна, два басейны, зала трэнажораў і многае іншае.**

**НА ЗДЫМКУ: у зале трэнажораў.**

*Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.*

## ХРОНІКА

● МІЖНАРОДНАЯ навукова-практычная канферэнцыя "Еўрапейскі эканамічны і валютны саюз — крок насустрач XXI стагоддзю" прайшла ў Мінску. Яна была арганізавана Белзнешэканомбанкам сумесна з Цэнтрам еўрапейскай дакументацыі і інфармацыі Белдзяржуніверсітэта. Сярод іншага былі абмеркаваны вынікі ўвядзення еўравалюты для нашай рэспублікі.

● НЕКАЛЬКІ новых мадэлей трактароў "Беларусь" сталі экспанатамі Міжнароднай Гаванскай выставы-кірмашу ў кубінскай сталіцы. Пасля невялікага перапынку аб'ёмы продажу трактароў МТЗ на востраве зноў пачалі расці. Акрамя машынабудавання беларуская стэнды прадставілі прадукцыю электронікі.

● У СЯРЭДЗІНЕ снежня гэтага года плануецца падпісанне рамачнага пагаднення аб супрацоўніцтве паміж Беларускай гандлёва-прамысловай палатай і Федэрацыяй індыйскіх гандлёва-прамысловых палат. Ратыфікацыю дакумента мяркуецца правесці ў ходзе візіту прадстаўнікоў айчынных дзелавых колаў у гэтую дзяржаву.

● З ДАЗВОЛУ сталічнай адміністрацыі 1 лістапада ў Мінску адбыліся шэсце і мітынг, прымеркаваныя да Дня памяці продкаў, які называецца ў народзе Дзяды. Удзельнікі шэсця арганізавана накіраваліся ў Курапаты, дзе прайшоў мітынг у памяць ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

● У РАМКАХ праекта Міжнароднай фінансавай карпарацыі "Малая прыватызацыя ў Беларусі" ў кастрычніку ў рэспубліцы адбылося восем аўкцыёнаў. На іх было прададзена 20 аб'ектаў на агульную суму 68 мільярдаў 169 мільёнаў 300 тысяч рублёў. Амаль палавіну яе — 34 мільярды 150 мільёнаў рублёў — склала выручка сталічнага аўкцыёна. Найбольшую цікавасць у пакупнікоў выклікалі будынкі, размешчаныя ў самым цэнтры горада.

● ДРУГІМ прадпрыемствам у нашай краіне пасля Мінскага камвольнага камбіната, чыя прадукцыя ўдастоена гандлёвага знака "Woolmark", стала акцыянернае таварыства "Дываны Брэста". Гэты гандлёвы знак прысвойваецца толькі чыста шарсцяной прадукцыі. Прычым, патрабаванні да яе якасці значна вышэйшыя за прынятыя ў многіх краінах стандарты.

● ПЕРСАНАЛЬНЫЯ ЭВМ з маркай "Мінск" шырока вядомыя як у нашай рэспубліцы, так і за мяжой. Яны распрацоўваліся вучонымі і спецыялістамі дзяржаўнага прадпрыемства "Навукова-даследчы інстытут вылічальных машын", якому споўнілася 40 гадоў.

● РАЗВІЦЦЁ духоўнасці ў сучасным свеце, а таксама прычыны маральнага крызісу ў беларускім грамадстве сталі асноўнымі тэмамі "круглага стала" "Жанчыны і духоўнасць". Маральныя арыенціры на парозе XXI стагоддзя", што прайшоў у Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры. Яго арганізавалі беларускі Жаночы хрысціянска-дэмакратычны рух і жаночы адукацыйна-кансультацыйны цэнтр.

● У ГЭТЫМ годзе на гомельскі завод "Крышталь" паступіць 45 тысяч каратаў ювелірных алмазаў і 350 тысяч каратаў тэхнічных алмазаў. На думку спецыялістаў, гэта дазволіць у першую чаргу павялічыць аб'ёмы агранкі інструментаў і ювелірных вырабаў.

● У ФРАНЦУЗСКІМ горадзе Вілербан, пабраціме Магілёва, з вялікім поспехам прайшла выстава магілёўскіх мастакоў, у цырымоніі адкрыцця якой прыняў удзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол нашай краіны ў Францыі Уладзімір Сянько. Ён знаходзіўся ў гэтым горадзе па запрашэнні мэра.

● ЧАЦВЁРТАЯ частка з 120 асоба значных і каштоўных помнікаў дойліды Брэстчыны знаходзіцца на тэрыторыі Баранавіцкага раёна. Менавіта іх адраджэнню і было прысвечана чарговае пасяджэнне каардынацыйнага савета па ахове матэрыяльнай і духоўнай спадчыны пры Брэсцкім аблвыканкоме. Гісторыкі, архітэктары, краязнаўцы, якія прынялі ўдзел у дыскусіі, прыйшлі да высновы, што ў першую чаргу павінны быць адноўлены палацавыя ансамблі ў вёсках Ястрэмбель, Паланечка, Стайкі, Паўлінава і Лесіна. Іх мяркуецца выкарыстаць у якасці музеяў, дамоў і лагераў адпачынку для дзяцей.

*ФЕСТЫВАЛІ*




**У Магілёве прайшоў міжнародны музычны фестываль "Залаты шлягер-98".**

**НА ЗДЫМКУ: спявачка Эдзіта П'ЕХА.**

*Фота Мікалая ЦІТОВА, БелТА,*

## НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

### ЯНКА ЗАПРУДНІК:

# «ТРЭБА ПАМЯТАЦЬ: ЗЯМЛЯ ПРОДКАЎ ЗАЎСЁДЫ КЛІЧА НАС, І ТРЭБА БЫЦЬ ЁЙ ВЕРНЫМІ»

*Янка Запруднік, вядомы дзеяч беларускай дыяспары ў ЗША, віцэ-старшыня Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, разам з жонкай мастачкай Надзяй штогод прыязджае на радзіму, каб пабачыцца са сваякамі, сябрамі, наведаць родныя мясціны. Сёлета ён прымеркаваў свой прыезд да ўдзелу ў міжнародным кангрэсе "Беларускае Асветніцтва: вопыт тысячагоддзяў", які праходзіў у Мінску.*

*Мы сядзім ва ўтульным і гасцінным доме нашчадкаў Якуба Коласа, і я задаю Янку Запрудніку пытанні, над якімі апошнім часам задумваюцца многія.*

***— Цяпер, па сутнасці, інтэгруецца ўвесь свет. Як вам бачацца магчымасці самавыяўлення нацыі ў гэтым працэсе, ці не сціраецца яе адметнасць?***

— Слова інтэграцыя мае спецыфічны падтэкст — палітычны. У свеце ж часцей гавораць пра глабалізацыю. Глабалізацыя — працэс вельмі шырокі, які асэнсоўваюць і палітыкі, і эканамісты, і філосафы.

Некалі, у 60-х гадах, чалавек упершыню глянуў з космасу на зямлю. Ён пабачыў маленькі шарык, і гэта зрабіла моцны ўплыў на разуменне лёсу ўсяго чалавецтва, а не асобных народаў, як раней. Мы ўсе знаходзімся на адным маленькім шарыку, вельмі крохкім. Цяпер усё больш замацоўваецца разуменне адзінства ўсіх людзей, іх спалучанасці.

Нацыя не з'яўляецца замкнёнай структурай. Тым больш замкнёнасць выключаецца, калі адбываецца працэс глабалізацыі. Ён стымулюецца ў вялікай меры развіццём камп'ютэрнай сеткі. Камп'ютэр злучыў сёння свет, як прынята гаварыць у Амерыцы, у адну вёску.

Я нядаўна ўдзельнічаў у кангрэсе амерыканскіх славістаў, што праводзіўся ў Фларыдзе. Там была ўтворана беларуская секцыя, і мне спатрэбілася спешна разаслаць свой даклад у іншыя штаты, у Канаду, Францыю. І я імгненна гэта зрабіў, карыстаючыся электроннай поштай.

Камп'ютэрная сетка, Інтэрнет далі магчымасць камунікавацца палітыкам, журналістам, спецыялістам розных галін. Але гэтая злучанасць не азначае, што нацыі страчваюць сваю адметнасць. Асноўная маса людзей жыве традыцыямі. Возьмем за прыклад прагрэсіруючую па многіх напрамках краіну — Францыю. У большасці французы шануюць сваю мову, збіраюцца на нацыянальныя святы, прытрымліваюцца традыцый, жывуць спадчынай, якая ім дасталася ад бацькоў і стваралася, назапашвалася на працягу многіх стагоддзяў. Так робіцца і ў іншых краінах.

Кожная нацыя павінна так жыць. І гэта не толькі справа пэўнага ўзроўню цывілізацыі, гэта маральны абавязак быць прадаўжальнікамі сваіх папярэднікаў-прашчураў. Чалавек мусіць мець грунт, трывалую закаранёнасць у сваёй мінуўшчыне.

***— Беларусь, як і ўсё чалавецтва, знаходзіцца на мяжы тысячагоддзяў. Вы ўсё жыццё займаецеся гістарычнай і культурнай спадчынай Беларусі. Якая, на ваш погляд, аснова выжывання нашай нацыі?***

— У філасофскім плане спрадвек вядзецца спрэчка: што першае — матэрыя ці дух. Ёсць людзі, якія цвердзяць, што дух — вынік існавання матэрыі, але ёсць людзі, якія ўпэўнены ў адваротным. Сёння шмат якія вучоныя прыходзяць да пераканання, што псіхіка мае больш ўплыў на фізіялогію чалавека, чым лічылася раней. А гэта значыць, шмат што ў свеце матэрыяльным залежыць ад таго, як і што адчувае, думае кожны з нас. І гэтая ўзаемасувязь становіцца ўсё больш відавочнай.

Пераносячы гэта на сацыяльную сферу, можна сказаць, што ідэалогія, культура маюць вялікі ўплыў на эканоміку. Эканоміку нельга адарваць ад культуры, таму сцвярджаю, што калі б беларусы мелі мацнейшае патрыятычнае пачуццё, то і эканоміка была б лепшай.

Нядаўна я пабачыў у Міры масток, па якім мусяць праходзіць шаноўныя госці. Масток з аднаго боку быў пафарбаваны хораша, а з другога абы-як — падцяклі рагі. Той чалавек, які гэту працу выконваў, паставіўся да працы абыякава. Я разумею, можа ў яго мізэрная зарплата. Але калі людзі не маюць пачуцця гонару за свой горад, за свой народ, сваю дзяржаву, яны будуць раўнадушныя да ўсяго іншага ў сваім жыцці. Гэтую ж работу патрыёт зробіць лепш. Я думаю, што і якасць вырабленых тавараў залежыць ад таго, як ты хочаш, каб свет бачыў цябе, твой народ, тваю краіну. Ёсць выразная ўзаемасувязь паміж нацыянальным пачуццём, нацыянальнай самасвядомасцю і эканомікай. Бяда Беларусі ў тым,што нацыянальная самасвядомасць у многіх людзей прыгнечана.

Маладое пакаленне мусіць узгадоўвацца як прадаўжальнікі продкаў мінулых стагоддзяў. Кожны павінен ведаць вялікіх сыноў Радзімы — Францішка Скарыну, Льва Сапегу і многіх іншых. Трэба, каб яны чуліся гістарычнай глебай. У маладых беларусаў павінна выхоўвацца пачуццё нацыянальнай годнасці, як у летувісаў, палякаў ці немцаў. Патрэбны іхняя злучанасць з прашчурамі, культ продкаў, разуменне, што яны спадкаемцы людзей, якія жылі некалі на гэтай зямлі, якія дбалі пра свой народ, сваю дзяржаву.

***— Сёння людзі выязджаюць на Захад, каб рэалізаваць сябе поўнасцю. Ці ёсць гэта паратунак для Радзімы, ці здача пазіцый?***

— Так, з Беларусі сёння едзе шмат людзей. Нашы беларускія арганізацыі ў ЗША папоўніліся новымі сябрамі. Напрыклад, у Нью-Йоркскім аддзеле БАЗа на 60 працэнтаў — новыя людзі. Шмат хто з іх прыходзіць у цэркву, на імпрэзы. Зразумела, новапрыбылыя шмат сіл траціць, каб уладкавацца, матэрыяльна забяспечыць сваё існаванне. Але частка адразу ўваходзіць у грамадскія суполкі.

Сваім удзелам у беларускім жыцці гэтыя людзі прыносяць карысць Беларусі. Некаторыя з іх спрабуюць наладзіць сумесныя прадпрыемствы на Беларусі. Большасць аказваюць пасільную эканамічную дапамогу родным і блізкім: дасылаюць пасылкі, грошы.

***— Што б вы хацелі перадаць беларусам, якія жывуць за межамі сваёй Бацькаўшчыны?***

— Раўненне неабходна браць на ідэю незалежнай, дэмакратычнай, свабоднай, міралюбівай Беларусі, на памяць продкаў, на тых людзей, якія аддалі жыццё ў змаганні за лепшае, на усіх, хто працаваў на адраджэнне Беларусі, яе дабрабыт...

Трэба заўсёды памятаць пра зямлю продкаў. Яна кліча нас быць вернымі ёй, і гэтая вернасць у большай ці меншай ступені ў кожным з нас, як бы далёка ні давялося жыць. Кожны раз, калі я прыязджаю на Беларусь, я адчуваю дотык да крыніц — духоўных, культурных, гістарычных. Менавіта дачыненне да гэтых крыніц павінна трымаць нас усіх разам...

**Гутарку вяла**
**Ніна ПЕТУХОВА.**

---

**Сёлета лекцыі студэнтам Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта ў Мінску запрошаны чытаць прафесар з Нью-Дэлі Аміт БХАДУРЫ, вядомы эксперт па пераходных эканоміках, кансультант урада Індыі, эксперт ААН.**

## ЗАЦІКАЎЛЕНЫ СУБЯСЕДНІК

### Аміт БХАДУРЫ:

# «У БЕЛАРУСІ ЗАХАВАЛІСЯ ВЕЛЬМІ ВЫСОКІЯ СТАНДАРТЫ»

***— Спадар Бхадуры, з чым звязаны ваш выбар Беларусі як месца работы на цэлы год?***

— На мой погляд, па навуковаму патэнцыялу ў пэўных галінах Беларусь цалкам можа параўнацца з перадавымі краінамі свету. Я маю на ўвазе такія навукі, як матэматыка, эканоміка, фізіка. У Беларусі захаваліся вельмі высокія стандарты і патрабаванні да навуковых даследаванняў.

***— Чаму ж, на ваш погляд, маючы такі высокі патэнцыял, наша краіна апынулася ў складаным эканамічным становішчы?***

— Не ўсе напрамкі навукі развіваліся аднолькава добра. У той час як дакладныя і тэхнічныя навукі былі вельмі высока развіты, грамадскія дысцыпліны знаходзіліся на больш нізкім узроўні. Між тым, па свайму прызначэнню сацыяльныя навукі ва ўсім свеце павінны быць крытычна накіраваны да грамадскіх з'яў, каб выяўляць існуючыя недахопы. На жаль, гэта не адбывалася ў Савецкім Саюзе.

Ёсць і іншыя, не менш важныя прычыны. Калі існаваў Савецкі Саюз, Беларусь была часткай аднаго агульнага арганізма, "зборачным цэхам" СССР і, дарэчы, выдатна выконвала гэтую ролю. Пасля таго, як Савецкі Саюз распаўся, кожная дзяржава павінна была стаць самастойнай эканамічнай адзінкай. Складанасці пераходу з аднаго стану ў іншы — гэта і ёсць адна з асноўных прычын крызісу.

Самы хуткі і лепшы спосаб стабілізаваць эканоміку, на мой погляд, заключаецца ў шырокім развіцці гандлёва-эканамічных міжнародных сувязей пры поўным захаванні палітычнага суверэнітэту.

***— Вы лічыце, што арыентацыя на паглыбленыя эканамічныя адносіны пераважна з адной краінай — памылковая?***

— Важна зрабіць эканамічныя адносіны разнастайнымі. Маючы выгадныя кантракты з шырокім колам партнёраў, дзяржава заўсёды зможа купляць і прадаваць значна больш, чым калі аддасць перавагу кааперацыі з адной краінай.

***— Але розныя краіны маюць неаднолькавае эканамічнае становішча, далёка не кожная з іх здольная выпрацаваць раўнапраўныя эканамічныя адносіны з усім светам.***

— Канешне, Швецыя, напрыклад, можа паводзіць сябе са Злучанымі Штатамі і з любой іншай краінай свету як абсалютна роўны эканамічны партнёр, таму што тавары, якія яна вырабляе, знаходзяцца на аднолькавым ці нават на больш высокім спажывецкім узроўні. А Беларусь, дарэчы, як і Індыя, не можа быць буйным гандлёвым партнёрам Амерыкі па прычыне розніцы ў развіцці. Таму вельмі важна павысіць якасць тавараў у спажывецкай сферы.

***— Гэта патрабуе вялікіх фінансавых затрат, інвестыцый. Напэўна, пакуль для Беларусі прасцей гандляваць з партнёрамі, якія знаходзяцца прыкладна на адным з ёю ўзроўні развіцця?***

— Адно не выключае другое. Калі распаўся Савецкі Саюз, развал палітычнай сістэмы зусім не павінен быў азначаць ліквідацыю існуючых эканамічных адносін. У першую чаргу, я маю на ўвазе распад Савета Эканамічнай Узаемадапамогі. Просты прыклад: зараз рэальныя гандлёвыя адносіны вашай краіны з Польшчай нават шырэйшыя за афіцыйныя. Вашы краіны знаходзяцца на адным узроўні, узаемаадносіны Польшчы і Беларусі карысныя абедзвюм. Тады як, напрыклад, з Даніяй і Нідэрландамі, нягледзячы на іх нязначную аддаленасць ад вас, эканамічныя адносіны амаль адсутнічаюць.

Абагульняючы сказанае, хачу бы падкрэсліць, што ёсць два прынцыпы, якімі ўсе былыя сацыялістычныя краіны павінны кіравацца ў эканамічных адносінах. Перш за ўсё палітычная незалежнасць, суверэнітэт, але з цесным эканамічным супрацоўніцтвам. І другое. Эканамічнае ўзаемадзеянне, узаемадапамога краін могуць хутка развівацца з дапамогай прыватнага прадпрымальніцтва. Неабходна такая эканамічная сітуацыя, калі вялікая колькасць сярэдніх і дробных прыватных кампаній можа весці незалежную эканамічную палітыку, самастойна выбіраць сабе партнёраў у Польшчы, у Маскве. Гэта не павінна навязвацца ўрадам зверху.

***— Такім чынам, чым больш лібералізавана эканоміка — тым лепш?***

— Не зусім. Існуе штосьці, чаго шматлікія вучоныя Заходняй Еўропы, ЗША не разумеюць, калі размова ідзе пра краіны былога сацыялістычнага блока. У старой сістэме амаль кожны чалавек меў нейкі мінімум сацыяльнага страхавання, сацыяльнай абароны з боку дзяржавы. Практычна не было бяздомных, беспрацоўных, існавалі бясплатныя адукацыя, медыцына і г. д. І гэта, у сваю чаргу, стварала свой, асаблівы менталітэт. Можна вызначыць дзве яго характэрныя рысы. Па-першае, усеагульная роўнасць людзей. Па-другое, поўная залежнасць ад дзяржавы. І адна з памылак некаторых эканамістаў якраз у тым, што яны хацелі змяніць гэты менталітэт за вельмі кароткі час. Якраз гэта і ёсць асноўная складанасць — знайсці баланс, нешта сярэдняе паміж дзвюма крайнасцямі: шокавай тэрапіяй і поўнай залежнасцю чалавека ад дзяржавы.

У нас ужо ёсць пацверджаны практыкай вопыт, які сведчыць, што ні шлях "імгненнага рашэння" ўсіх праблем, ні шлях вяртання назад у камунізм на справе не працуюць. Але паміж гэтымі двума крайнімі варыянтамі ёсць шырокі выбар перспектыў. І якой з іх аддаць перавагу, як будаваць сваю будучыню — вырашаць народу, палітычным кіраўнікам дзяржавы.

**Анатоль ВІТКОЎСКІ.**
("7 дней").

## ПОСТАЦІ СЛАВУТЫХ ПРОДКАЎ

# ІГНАТ КУЛЬЧЫНСКІ — ПЕРШЫ ДАСЛЕДЧЫК БЕЛАРУСКІХ СТАРАЖЫТНАСЦЕЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Ды і сама Каложа, нягледзячы на тое, што час не пашкадаваў яе, быццам пастаянна расце, імкнучыся ўгару, каб шпілямі крануцца аблокаў.

Адно непакоіла Ігната: усё больш заўважалася, як нястомныя нёманскія хвалі настойлівей і настойлівей падмывалі гэты ўзгорак.

Як у такім разе дзейнічаць і што рабіць, Кульчынскі добра ведаў. Ён не сумняваўся, што і сцены трэба ўмацоўваць, і падрамантаваць месцы, якія разбурыліся. Але галоўнае выйсце бачыў не ў гэтым. Калі не ліквідаваць першапрычыну разбурэння, становішча не ўратуеш. Таму і загадаў умацоўваць узгорак. Яго абнеслі доўгім плотам, які на працягу ўсёй даўжыні абклалі гноем. Пасля такой падкормкі трава пачала расці хутка і стала густой, сваімі каранямі змацавала пясок.

Аднак гэтага, як разумеў Кульчынскі, мала. Адна трава становішча не ўратуе. Таму праз некаторы час уздоўж плота пасадзілі шмат розных дрэў. Падбіралі з такім разлікам, каб хутка раслі і мелі моцную карнявую сістэму. А пасля і да рамонту прыступілі.

Паспакайнела на душы ў Ігната, і гнятлівыя думкі за далейшы лёс Каложскай царквы, якія доўгі час непакоілі яго, адышлі. Цяпер, здаецца, ужо нішто не магло адцягнуць яго ўвагу ад занятку, які прывабіў адразу па прыездзе ў Гродна. Гэты клопат у немалой ступені таксама тычыўся Каложскай царквы.

ВЯРНУЎШЫСЯ ў 1735 годзе на радзіму (нарадзіўся Кульчынскі ў 1707 годзе, выказваецца меркаванне, што непадалёку ад Гродна, а пасля, невядома як, трапіў у Італію), ён некаторы час жыў у Полацку, а потым стаў архімандрытам гродзенскага Каложскага базыльянскага манастыра. Тады ж і зацікавіўся яго гісторыяй — балазе, архіўных матэрыялаў захавалася шмат... Праўда, на жаль, куды менш іх тычылася непасрэдна гісторыі самой царквы. Тым не менш і пра яе таксама не мог не расказаць у сваёй працы, якая пасля завяршэння стала называцца "Інвентар Гродзенскага Каложскага базыльянскага манастыра, заснаванага ў старажытныя часы, з руплівасцю і ў належным парадку складзены ў 1738 годзе доктарам багаслоўя рымскага, цяпер гродзенскім архімандрытам манахам... Ігнатам Кульчынскім".

Гэтая праца і па сённяшні дзень не страціла навуковых вартасцяў. Але яна ўяўляе цікавасць яшчэ і таму, што, напісаўшы "Інвентар...", Кульчынскі стаў першым даследчыкам беларускіх старажытнасцей.

Пазнаёміцца ж з "Інвентаром...", дарэчы, не так і складана, бо ён апублікаваны ў "Археаграфічным зборніку дакументаў, што адносяцца да гісторыі Заходняй Русі" (Вільня, 1870, т. 9), а яго можна знайсці ў буйных кнігасховішчах нашай краіны. Перагорнем жа асобныя старонкі гэтай працы...

Пачынаецца "Інвентар..." са свайго роду ўводзін, якія найперш прыцягваюць увагу тым, што Кульчынскі ў іх паўстае даследчыкам, які ў сваіх навуковых вышуках апярэджваў свой час. Ды аб усім па парадку... Спачатку ён расказвае пра месцазнаходжанне Каложскай царквы, згадвае і аб тым, як ён паклапаціўся, каб запаволіць разбурэнне ўзгорка, на якім размешчаны храм. Але куды важней, што Кульчынскі змог вызначыць узрост Каложы.

"...Царква ў імя святых пакутнікаў Барыса і Глеба пабудавана даўнім спосабам. Адносна старажытнасці гэтай царквы я не бачыў ніводнага дакумента, але мяркую, што царква пабудавана ў той самы час і ў тым жа стагоддзі, калі ўзведзены быў полацкі кафедральны храм, г. зн. у час удзельных рускіх князёў і да звароту Літвы ў святую веру", — канстатуе Кульчынскі і, адштурхоўваючыся ад часу ўзвядзення полацкай Сафіі (а дата была вядомая ўжо і тады), прыходзіць да высновы, што "царква гэтая (маецца на ўвазе Каложская. — **А. М.**) заснавана і пабудавана прыкладна каля лета гасподня 1200".

Такі вывад у яго з'явіўся не сам па сабе, а стаў вынікам параўнальнага аналізу, супастаўлення: "Галоўны доказ складаецца з таго, што гэтая царква цэглай і вапняком падобная на кафедральную полацкую царкву..." А як выглядала Сафія, Кульчынскі, канечне, бачыў, калі знаходзіўся ў Полацку. Тады стан знакамітага па сённяшні дзень храма быў далёка не лепшым. Гэта ў 1750 годзе (значыць, больш як праз дзесяць гадоў пасля з'яўлення "Інвентара...") Фларыян Грабніцкі перабудаваў, рэканструяваў яе. Позірку ж Кульчынскага адкрыліся шматлікія разбурэнні. Месцамі кладка храма "агалілася", патрэскалася плінфа, а плінфа, як вядома, у перакладзе з грэчаскай мовы і азначае цагліна.

Плінфа — спецыяльны від шырокай, плоскай абпаленай цэглы, які выкарыстоўваўся ў манументальным будаўніцтве яшчэ ў Візантыі, а ў X—XI стагоддзях пашырыўся і на Беларусі. Пры ўзвядзенні храмаў нашы продкі аздаблялі плінфу рознымі рэльефнымі знакамі — трызубец, пяціканцовая зорка... Вялікае пашырэнне атрымала муроўка з так званым "схаваным радам", у якой заглыбленні і выступы чаргаваліся з высунутымі наперад радамі. Цагліны змацоўваліся цамянкай — вапнавым растворам, у які дамешвалася дробнатоўчаная чырвоная цэгла. А паколькі чырвоныя палосы плінфы чаргаваліся з бледна-ружовымі цамянкі, такая муроўка атрымала назву "паласатай".

Кульчынскі заўважыў, што плінфа Сафіі і плінфа Каложы падобныя, а таму і прыйшоў да высновы, што гэтыя два помнікі культавага дойлідства з'явіліся амаль адначасова. А значыць, ён выкарыстаў рэчавыя доказы, чым да яго ніхто не займаўся. Хоць у такім супастаўленні двух храмаў Кульчынскі ў чымсьці выглядаў і дылетантам.

У сувязі з гэтым нельга не прыслухацца да меркаванняў вядомага сучаснага даследчыка старажытнасцей Л. Аляксеева: "Ідэя датаваць храм па цэгле-плінфе была абсалютна правільная, але нельга было, як мы цяпер ведаем, кладку (opus mixtum) з квадратнай плінфай, тыповую для XI стагоддзя, параўноўваць з плінфай падоўжанай і кладкай радамі ў Каложы, тыповай для XII стагоддзя".

Важна, што Кульчынскі першым зрабіў і падрабязнае апісанне Каложскай царквы, а, значыць, аказаў добрую паслугу і будучым даследчыкам. Дарэчы, цяпер не знойдзеш ніводнай працы, аўтары якой пры разглядзе гісторыі гродзенскай Каложы не карысталіся б звесткамі, прыведзенымі ўпершыню Кульчынскім. Прытым апісанне Каложскай царквы, зробленае ім, вельмі падрабязнае — адлюстраваны і знешні выгляд храма, і яго ўнутранае аздабленне.

Тэкст "Інвентара..." складаецца з 11 параграфаў, пададзеных без назваў. Асобныя з іх скампанаваны ў раздзелы. У першым раздзеле, куды ўвайшло тры параграфы, прыводзяцца асноўныя звесткі пра помнік, расказваецца, як умацоўвалі яго, каб не падмываўся вадой, і, нарэшце, указваецца дата збудавання. А пасля Кульчынскі пераходзіць да апісання знешняга выгляду Каложы, засведчыўшы, што яна "пабудавана (амаль) квадратам — шырыня менш даўжыні". Тут жа параўноўвае яе з полацкай Сафіяй: "Па свайму выгляду і пабудове не адрозніваецца ад полацкай кафедральнай царквы, толькі куды менш за апошнюю".

Кульчынскага не магло не захапіць дэкаратыўнае аздабленне храма, бо і на самай справе было на што паглядзець, на чым доўга затрымаць вока: "Знізу ў сценах крыжападобна ўстаўлены рознай велічыні і розных колераў камяні. Крыху вышэй таксама крыжападобна ўстаўлены ў сцены крыжы з паліраваных жоўтых і зялёных цаглін".

Што да апісання ўнутранага выгляду царквы, дык міма позірку Кульчынскага, здаецца, нішто не прайшло бясследна. Ён расказвае пра дзверы, падлогу, што была выкладзена цэглай, а не пліткай, гаворыць пра "каменную столь", якая, на жаль, абвалілася падчас вайны, калі, па некаторых чутках, заваёўнікі паставілі ў царкве гарматы і з іх абстрэльвалі замак.

Звярнуў даследчык увагу на калоны, іх форму — паблізу "вялікіх дзвярэй" знаходзіліся дзве цагляныя чатырохгранныя, а па цэнтры — чатыры круглыя. Апісваў ход на хоры. Не прамінуў сказаць, што ў царкве выдатная акустыка: "Варта захаплення, што ў гэтым старажытным храме ва ўсіх сценах знаходзіцца шмат адтулін, якія здаюцца маленькімі і вузкімі, бо толькі руку можна прасунуць у іх, але ўнутры сцен яны расшыраюцца ў вялікія і шырокія гаршкі". Такія галаснікі і давалі належны эфект.

Да Кульчынскага ніхто так падрабязна ніводзін гістарычны помнік не апісваў, тым больш, помнік культавага дойлідства.

Сведчанні вельмі важныя, бо дзякуючы ім можна атрымаць поўнае ўяўленне аб тым, як выглядала гродзенская царква да першай паловы XVIII стагоддзя. Цяпер яна, як вядома, мае іншы выгляд. І ў першую чаргу таму, што ў ноч з 1 на 2 красавіка 1853 года паўднёвая сцяна яе і частка заходняй асунуліся ў Нёман, а чарговы раз разбуральная сіла ракі нагадала аб сабе ў 1889 годзе. І давялося займацца рэканструкцыяй.

ЗАВЯРШЫЎШЫ "Інвентар...", Кульчынскі працягваў працу ў манастырскіх архівах. Вынікам яе стала "Хроніка ігуменаў, архімандрытаў, царкоўных стараст і заступнікаў Гродзенскага Каложскага манастыра". Неабходныя звесткі было атрымаць не так і лёгка: "Складаючы гэты Інвентар з належным стараннем і не без высілкаў, разбіраў я манастырскі архіў; у старых паперах прачытаў я імёны старажытных ігуменаў і архімандрытаў, і гэтыя імёны лічу неабходным апісаць у храналагічнай паслядоўнасці..."

Атрымалася па сутнасці поўная гісторыя гэтага манастыра. Кульчынскі імкнуўся быць як мага больш дакладным, таму для падмацавання сваіх вывадаў часта выкарыстоўваў цытаты з першакрыніц, а асобныя тэксты прыводзіў цалкам. І, як правіла, на мове арыгінала, што дае падставы гаварыць аб навуковасці яго падыходу да даўніх падзей. Аўтарскі ж тэкст у "Хроніцы..." з вялікай колькасцю лацінізмаў, бо Кульчынскі карыстаўся царкоўнай мовай. Асобныя месцы ў дакументах ён лічыў неабходным пракаменціраваць, хоць, як гаворыцца ў публікацыі, змешчанай у тым жа томе "Археаграфічнага зборніка...", што і "Інвентар...", тлумачэнні гэтыя часам памылковыя.

Першым, каго згадвае Кульчынскі ў сваёй працы, быў ігумен Каліста (1480—1492), а завяршаецца гаворка 12 кастрычніка 1736 года, калі архімандрытам стаў сам Кульчынскі.

У развагах Кульчынскага знайшлося месца і тлумачэнням стану асобных архіўных матэрыялаў. Ён часта скардзіцца, што некаторыя дакументы даводзілася прачытваць з цяжкасцю, нават часам папярэдне падклейваў іх, каб затым лепш разабраць тэкст.

Вытлумачэнне такой дрэннай захаванасці архіваў трэба шукаць не толькі ў тым, што з цягам часу стан іх пагоршыўся, гэта цалкам зразумела. Але прычына была і ў іншым, прычым, відаць, не менш істотная: давала вынік само стаўленне да архіваў.

Наконт гэтага вельмі слушную думку выказаў В. Іконнікаў у кнізе "Вопыт рускай гістарыяграфіі" (Кіеў, 1908, т. 2): "Не маючы гэткіх моўных ахоўнікаў, якімі былі Хадкевічы для Супрасльскага манастыра, каложскі манастыр пераходзіў ад аднаго свецкага апекуна да другога, маёнткі яго раскрадаліся, брацiя выганялася, і манастыру неставала часам сродкаў для куплі хлеба; даводзілася прадаваць царкоўныя сасуды..."

Што ўжо казаць пра захаванасць архіваў, калі і за станам будынкаў нярэдка сачылі выпадковыя людзі.

Пра ўважлівае стаўленне Кульчынскага да арыгінала сведчыць і тое, што ён спецыяльна пазначаў словы, напісаныя ў дакументах невыразна, а таксама ўказваў тыя, якія зусім не ўдалося прачытаць, а ў выніку магло стацца і так, што сэнс перадаваўся няправільна, бо даследчык мусіў інтуітыўна заглыбляцца ў змест сказанага.

Да Кульчынскага ніхто так уважліва не прачытваў першакрыніцы, і тут ён стаў першапраходцам.

Жывучы ў Полацку, ён не мог не зацікавіцца старажытнасцямі гэтага горада. У першую чаргу інтарэс праявіў да знакамітага крыжа Ефрасінні, які на той час захоўваўся ў Базыльянскім манастыры пры храме Сафіі. Пра гэта Кульчынскі расказаў у адной са сваіх прац: "Будучы доктарам філасофіі ў нашым манастыры, я часта назіраў, як зберагаюць памяць гэтай святыні інакіні нашага базыльянскага манастыра і жыхары полацкія, а таксама (і жыхары) даволі вялікага (полацкага. — **А. М.**) ваяводства. У кафедральнай царкве полацкай да гэтага часу захоўваецца крыж цудоўнейшай работы з рознымі мошчамі, надпіс на ім: "Я, раба Хрыстова Параскева, аддаю гэты крыж на вечныя часы ў царкву св. Спаса".

У даным выпадку Кульчынскі, канечне, недакладны. Крыж у яго чамусьці з крыжа Ефрасінні Полацкай ператварыўся ў крыж Параскевы. На гэта яшчэ ў 1888 годзе звярнуў увагу А. Сапуноў ("Каталіцкая легенда аб Параскеве — княжне полацкай". Віцебск). Ён зазначыў, што такога надпісу на крыжы не было, а Кульчынскі зрабіў "вольны" пераклад тэксту.

А такую "вольнасць" ён дазволіў сабе свядома. Справа ў тым, што ў XVI стагоддзі, не без удзелу католікаў і уніятаў, атрымалі распаўсюджванне легенды пра Параскеву як святую, якая памерла ў Рыме. А паколькі яна з'яўлялася каталічкай, як мага часцей прапагандавалася гэтае імя. Не ўстрымаўся ад такой спакусы і Кульчынскі. Зрабіў гэта ў імя адстойвання рэлігіі, прыхільнікам якой з'яўляўся і якой служыў. І зграшыў супраць ісціны, чаго за ім дагэтуль ніколі не заўважалася.

І ўсё ж менавіта дзякуючы Кульчынскаму пра крыж Ефрасінні Полацкай (няхай і пад імем Параскевы) даведаліся на Захадзе. Спачатку гэтыя звесткі трапілі ў шматтомнік "Жыцця святых" (а калі больш канкрэтна, у яго пяты том, што выйшаў у 1775 годзе), адтуль перайшлі ў іншыя выданні.

Ісціна ж наконт імені, пазначанага на крыжы, перамагла толькі ў 1781 годзе дзякуючы Ігнату Сцябельскаму, але Кульчынскі пра гэта ўжо не мог ведаць, бо яго не стала прыкладна ў 1747 годзе.

ВЫВУЧАЎ Кульчынскі і гісторыю самога Гродна, а таксама вёскі Жыровічы, што на Слонімшчыне. Важныя і яго сведчанні пра Гродзенскі стары замак, які ўяўляў комплекс абарончых умацаванняў, культурных будынкаў, пачатак якім быў пакладзены ў канцы XI стагоддзя, калі Гародня з'яўлялася старажытнай пагранічнай крэпасцю. У канцы XIV — пачатку XV стагоддзяў вялікі князь літоўскі Вітаўт на месцы яе пабудаваў з цэглы і каменняў Верхні (потым ён атрымаў назву Старога) замак з магутнымі, рознай велічыні сценамі, а каля 1580 года Сцяпан Батура перабудаваў яго. Ад умацаванняў часоў Вітаўта засталіся толькі сцены і некаторыя вежы. Паводле італьянскага архітэктара Скота з Пармы, быў пабудаваны вялікі рэнесансны палац...

Усяго сорак гадоў адмераў лёс Ігнату Кульчынскаму, і зроблена ім у параўнанні з іншымі даследчыкамі беларускай даўніны не так і шмат. Але паколькі ён быў першапраходцам ў многіх пачынаннях, важкасць (і важнасць!) здзейсненага ім набывае асаблівы сэнс.

## У ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»



Чарговае пасяджэнне савета садзейнічання пры таварыстве "Радзіма" было прысвечана абмеркаванню перспектыў развіцця адносін з суайчыннікамі ў Паўднёвай Амерыцы. На ім прысутнічалі прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Аргенціне, супрацоўнікі Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігіі і нацыянальнасцей, Міністэрства замежных спраў Беларусі.

Гасці з Аргенціны зазначылі, што насталі новыя часіны і цяпер аснову дыяспары складае трэцяе, а то і чацвёртае пакаленне беларусаў, што некалі ад'ехалі з Беларусі. І на здзіўленне многім, маладыя праяўляюць вялікую цікавасць да гісторыі і традыцый беларускага народа. Яны стараюцца прытрымлівацца нацыянальных звычак, захапляюцца фальклорам. Ад іх на Беларусь прыходзяць лісты з просьбай расказаць аб сённяшнім ладзе жыцця беларусаў, навінах культуры, сучаснай інтэрпрэтацыі нацыянальных строяў, рытуалах правядзення традыцыйных свят.

— Сёння, як ніколі, патрэбны пастаянны кантакт паміж нашымі краінамі, але адчувальную перашкоду стварае тое, што Беларусь не мае сваіх дыпламатычных прадстаўніцтваў у Паўднёвай Амерыцы. Таму так важна тое, што робіць таварыства "Радзіма" для падтрымання сувязі з дыяспарай, і таму так адчувальна ваша канкрэтная падтрымка, — падкрэслілі госці з Аргенціны.

У ходзе зацікаўленага абмеркавання ўзнятага пытання было прынята да ведама, што ў наступным годзе мяркуецца адкрыццё першай беларускай дыпламатычнай установы ў Лацінскай Амерыцы. Была звернута ўвага на неабходнасць выкарыстання магчымасцей інстытута ганаровых консулаў, як гэта з поспехам робяць іншыя краіны. Вялася гаворка і аб практыцы стварэння інфармацыйна-культурных, гандлёвых цэнтраў, удзеле суайчыннікаў у эканамічных стасунках.

**НА ЗДЫМКУ: такія сцэнічныя касцюмы ўручыў гасцям з Аргенціны намеснік старшыні таварыства "Радзіма" Уладзімір МЯЛЕШКА.**

*Фота Віктара СТАВЕРА.*

# Мінск, Захарава, 28.
# Дом дружбы.

**Гэты адрас вядомы многім сябрам Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Новая рубрыка будзе паведамляць аб тым, што вызначае насычанае жыццё Дому дружбы.**

**27 кастрычніка** ў Сафійскім універсітэце адбылася прэзентацыя зборніка вершаў вядомай беларускай паэтэсы Яўгеніі Янішчыц "Твая прысутнасць". Кніга выдадзена на балгарскай мове ў перакладзе Найдзена Вылчева, Зоі Васілевай, Хрыста Папова і Янкі Дзімава.

На прэзентацыі выступілі пасол Беларусі ў Балгарыі Л. Герасіменка, віцэ-прэзідэнт Балгарыі Т. Кавалджыеў, паэт і перакладчык Стэфан Паптонеў, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі паэт Уладзімір Някляеў, дырэктар выдавецтва "Панарама" Валянціна Баяджыева.

Т. Кавалджыеў высока адзначыў паэтычны дар Яўгеніі Янішчыц: "Такой паэтэсай можа ганарыцца любы народ, нават з больш старажытнай гісторыяй дзяржаўнасці..."

У Мінску прэзентацыя кнігі Яўгеніі Янішчыц "Твая прысутнасць" адбудзецца ў Доме дружбы **19 лістапада.**

* * *

**Напрыканцы кастрычніка** гасцямі Беларусі была вялікая дэлегацыя з Францыі — прадстаўнікі дабрачыннай арганізацыі "Аліса", аснову якой складаюць урачы. "Аліса" і Таварыства дружбы супрацоўнічаюць у галіне культуры і гуманітарнай дапамогі не першы год.

На гэты раз французскія сябры даставілі лекі і медыцынскае абсталяванне для рэспубліканскага дзіцячага санаторыя "Астрашыцкі гарадок", магілёўскай абласной, лагойскай раённай і 4-й мінскай бальніц.

Але ёсць у візіце французскіх урачоў цікавая акалічнасць: ён прымеркаваны да 50-годдзя беларускага кампазітара і кіраўніка ансамбля "Ведрыца" Генадзя Ермачэнкава. Гэты калектыў неаднаразова выступаў у Францыі з дабрачыннымі канцэртамі і даўно мае там не толькі паклоннікаў, але і сяброў.

* * *

**31 кастрычніка** ў Доме дружбы з поспехам прайшоў канцэрт гітарыста з Вялікабрытаніі Эндру Скота.

* * *

**4 і 5 лістапада** таварыства дружбы "Беларусь — Францыя" правяло дыскусію на тэму "Палітычная сістэма Францыі".

**11, 13, 14 і 16 лістапада** адбыўся рэтраспектыўны паказ фільмаў вядомых французскіх рэжысёраў.

* * *

**Напрыканцы кастрычніка — пачатку лістапада** ў рамках праграмы "Ад сям'і да сям'і" Беларусь наведала дэлегацыя з 43 чалавек — прадстаўнікоў аўстрыйскіх сем'яў, што 5 гадоў прымалі ў сябе на адпачынак і аздараўленне дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі.

* * *

**На пачатку лістапада** па запрашэнню Таварыства дружбы ў Мінску знаходзіўся вядомы сваёй актыўнай дабрачыннай дзейнасцю доктар Карл Фрыдрых Фай з горада Трыра. Госць з Германіі пабываў у Мазыры і Гомелі. На гэты раз доктар Фай даставіў гуманітарную дапамогу для інвалідаў — чарнобыльцаў і воінаў-афганцаў.

* * *

**4 лістапада** Таварыства дружбы наведаў Стэфан Калецік, прадстаўнік дзелавых колаў Швецыі, які зацікаўлены ў развіцці эканамічных сувязей паміж абедзвюма краінамі.

**У гэты ж дзень адбылася** сустрэча і з дэлегацыяй з Бельгіі на чале з кіраўніком Мальтыйскага Ордэна баронам Тангер д'Адорп, які, дарэчы, адначасова з'яўляецца Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Мальтыйскага Ордэна ў Рэспубліцы Беларусь. У складзе дэлегацыі была таксама і першы сакратар пасольства мадам дю Буа д'Эш, якую ў Беларусі ведаюць як Ізабэлу Чэцверцінску, яна паходжаннем з пасёлка Жалудок, што на Гродзеншчыне.

Акрамя сваіх дыпламатычных стасункаў, яны разам з Беларускім таварыствам дружбы ўжо не першы год ажыццяўляюць гуманітарныя праграмы, якія ўключаюць у сябе забеспячэнне лекамі і медыцынскім абсталяваннем жалудоцкай пасялковай бальніцы, бараўлянскага шпіталю для інвалідаў вайны і восьмай дзіцячай мінскай бальніцы.

* * *

**9 лістапада** адбылася сустрэча з дэлегацыяй з Ніжняй Саксоніі на чале з прафесарам Экелем, які з'яўляецца старшынёй палаты ўрачоў Ніжняй Саксоніі. Ён прадстаўляе вядомы ў Беларусі фонд, звязаны з імем Хільтруд Шродэр. Дзякуючы намаганням фонду і пані Шродэр, у бальніцы Беларусі паступіла 98 ультрагукавых сканераў для ранняй дыягностыкі захворванняў. На гэты раз госці прывезлі яшчэ 15 сканераў. Акрамя таго, падчас свайго візіту нямецкія спецыялісты наладзілі семінары для ўрачоў, што працуюць на гэтай апаратуры, з Брэсцкай, Гомельскай і Гродзенскай абласцей.

* * *

**10 лістапада** таварыства "Беларусь — Украіна" наладзіла вечарыну "Міцкевіч і Украіна", у якой удзельнічалі прадстаўнікі пасольства Украіны, вядомыя беларускія паэты. На вечары прагучалі вершы Адама Міцкевіча, якія паэт напісаў падчас свайго знаходжання на Украіне. Была таксама наладжана выстава работ беларускіх мастакоў украінскага паходжання.

* * *

**12 лістапада** з нагоды свята Дня незалежнасці Польшчы адбыўся канцэрт з твораў вядомых польскіх кампазітараў.

**Падрыхтавала**
**Марта КОСЦІЧ.**

# НЕЗАБЫЎНЫ ФІЛАМАЦКІ СЛЕД

### *З НАГОДЫ 80-годдзя ЗАСНАВАННЯ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВАГА ТАВАРЫСТВА Ў ВІЛЬНІ*

1918 год. Яшчэ не закончылася першая сусветная вайна. Тым не менш, абуджаныя ад векавога імперскага сну перадавыя сыны і дочкі "забранага краю" (выраз Янкі Купалы) палічылі, што патрэбна працаваць, прыносіць карысць для роднай старонкі. Яны звярнуліся да ўладаў, каб дазволілі стварыць Беларускае Навуковае Таварыства. Карысная справа знайшла паразуменне.

Неўзабаве ў Вільні 25—27 студзеня 1918 года адбылася навуковая канферэнцыя. Яна прыняла статут таварыства, які быў зацверджаны ўладамі 23 студзеня ў тым жа годзе. Праўда, межы дзейнасці таварыства ахоплівалі толькі абшар "Віленскага мястовага вокругу".

Характэрна, што ініцыятарам стварэння гэтай установы стаў адзін з галоўных будзіцеляў Беларусі Іван Луцкевіч. У лік заснавальнікаў Беларускага Навуковага Таварыства ўвайшлі Уладзіслаў Талочка, Вінцэнт Святаполк Мірскі, Казімір Шафнагель, Антон Луцкевіч, Юльяна Мэнке, Віктар Залескі, Янка Станкевіч і Вацлаў Ластоўскі.

Як і віленскія філаматы (па-грэчаскі: той, хто імкнецца да ведаў, пазнання, адданы іх прыхільнік), яны лічылі за вялікі гонар працаваць дзеля Адраджэння сваёй Бацькаўшчыны. Пра гэта гаварылася і ў статуце: "Рознабаковая навуковая праца, развіццё любові да навуковых доследаў і пашырэння ведаў". У гэтых жа мэтах дзеля ажыццяўлення задач таварыства яно павінна закладваць музеі, бібліятэкі, праводзіць з'езды, канферэнцыі, выставы, займацца экскурсіямі, лекцыямі, наладжваннем іншых мерапрыемстваў дзеля пазнання сваёй гісторыі, культуры і прагрэсу ў свеце.

Задачамі таварыства, паводле задумы Івана Луцкевіча, былі прыняцце і ўтрымліванне надзвычай багатага збору памятак беларускай культуры з ягонай калекцыі, якія заложаць фундамент нацыянальнага музея.

Другі дзень канферэнцыі 26 студзеня 1918 года быў прысвечаны 400-годдзю выхаду ў свет першай беларускай друкаванай кнігі — Бібліі доктара Францішка Скарыны. Пасля змястоўнага рэферату аб жыцці, працы Ф. Скарыны і значэнні гэтай падзеі Іван Луцкевіч зрабіў даклад аб новай беларускай установе.

Пры актыўным удзеле Беларускага Навуковага Таварыства ў 1918 годзе ў Вільні былі наладжаны выставы аб духоўнай спадчыне беларусаў.

На пасяджэнні таварыства, якое адбылося 13 траўня, Іван Луцкевіч зрабіў афіцыйную заўвагу, што ён перадае таварыству плён сваёй шматгадовай працы, а менавіта, архіў, бібліятэку, гістарычныя памяткі. Збор абразоў быў падараваны музею, які размясціўся ў Базыльянскіх мурах, дзе калісьці былі зняволены філаматы, прыхільнікі навукі на пачатку XIX стагоддзя на чале з духоўным кіраўніком паэтам Адамам Міцкевічам.

Заслуга БНТ, што яно спрычынілася для арганізацыі Беларускага музея, які неўзабаве атрымаў імя Івана Луцкевіча, і бібліятэкі, аснову якой склаў кнігазбор Б. Даніловіча.

На пасяджэннях таварыства неаднаразова выступалі з дакладамі і паведамленнямі па гісторыі, літаратуры, мове, этнаграфіі і фальклору вядомыя айчынныя і замежныя навукоўцы. Члены таварыства прымалі ўдзел у рабоце міжнароднага кангрэса гісторыкаў у Варшаве і рэгіянальнага ў Львове. Яны выдалі два зборнікі "Гадавікі" (1933, 1938), мноства змястоўных кніг і брашур, якія належаць пяру Адама Станкевіча, Антона Навіны і іншых патрыётаў.

Віленскае Беларускае Навуковае Таварыства праіснавала два дзесяцігоддзі і спыніла сваё існаванне ў 1939 годзе, але ў свядомасці патрыётаў краю пакінула незабыўны след, варты годных філамацкіх традыцый.

**Леў МІРАЧЫЦКІ,**
**старшы навуковы супрацоўнік**
**Інстытута гісторыі НАН.**



**Вядомы сваёй дабрачыннасцю мазырскі прадпрымальнік Васкан Чабанян пабудаваў на адным з маляўнічых узгоркаў горада царкву Георгія Пераможцаносца. Цікава, што пачатак богаслужэнням у ёй быў пакладзены вянчаннем тут дачкі Чабаняна.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.*

РАДАВОД

# ГРУША ЛЯ БАЦЬКОЎСКАГА ДОМА

*ПЕРШАЕ, што кінулася ў вочы: букецік ружова-фіялетавага верасу ў брамцы. Нехта пакінуў, не застаўшы гаспадыню. У двары вялікі плецены кош з грушамі і другі — з буйной, ягада ў ягаду, чарнаплоднай рабінай. На веснічках, ля самага ганка, мілы вартавы — соннае шчаня, якое аніяк не рэагуе на нас. Зрэшты, добразычліва сустракаюць гасцей і дзве вялізныя аўчаркі — Сава і Лінда...*

*Пагодлівы восеньскі дзень падаўся на гэтым двары нейкім асабліва прыгожым і спакойным — з цяжкасцю верылася, што зусім побач ажыўленая гарадская магістраль. У знаёмстве з самім домам і ягонай гаспадыняй, вядомай мінскай мастачкай Святланай КАТКОВАЙ, непрыкметна праходзілі гадзіны. Тут зусім інакш адчувалася плынь часу. І толькі бой гадзінніка на каміне нагадваў аб ягонай хуткацечнасці.*

*З кожнай гадзінай я ўсё болей і болей трапляла ў палон дома. Да ўсяго хацелася дакрануцца, патрымаць у руках — ці не таму, што амаль усе рэчы рукадзельныя, непаўторныя, надзвычай прыцягальныя.*

*Так, многае зроблена яе рукамі, а штосьці і рукамі сяброў ці запрошаных майстроў, але ва ўсім адчуваецца густ гаспадыні, яе душа. На нейкае імгненне тут нават можна паверыць, што, калі гаспадыня пакідае дом, рэчы ажываюць. І гутаркі іх поўныя згоды, бо тут няма нічога выпадковага, нелюбімага. Тут надзвычай лёгка дыхаецца, знікаюць турботы, стомленасць.*

*На гэтае маё прызнанне Святлана Сяргееўна адказвае:*

*— Ведаеце, усе, хто ні заходзіць да нас, гавораць тое ж самае.*

**— Я чула ад нашых агульных знаёмых, што гэты дом пабудаваў ваш бацька. Мяркуючы па той вялізнай грушы (ніколі не бачыла такой, ды яшчэ ў цэнтры Мінска!), гэта было даўно...**



— Больш за сорак гадоў назад. Грушу бацька пасадзіў у першы ж год. Наш дом — гэта дом-мара... Спачатку гэта была мара майго бацькі. Дзеда калісьці раскулачылі і ўсю ягоную вялікую сям'ю выгналі з уласнага дома. З таго часу мара зноў набыць свой дом не пакідала майго бацьку. Але здзейсніць яе ён змог няхутка. Пасля вайны мы дзесяць гадоў пражылі ў закутку двухпавярховага драўлянага барака. Я памятаю наш адзіны пакой — у ім амаль не было прасвету ад ложкаў (з намі ў той час жылі дзве матчыны сястры).

Калі я пайшла ў школу, мой шлях пралягаў паблізу генеральскага дома — быў ён з вітражамі і ўспрымаўся мной у той час як казачны церам. І раптоўна тады для мяне адкрылася ісціна: у чалавека можа быць свой уласны дом! З таго часу гэта стала і маёй блакітнай марай — мець свой, хоць і на курыных ножках, дом.

**— Гэты генеральскі дом — самае яркае ўражанне вашага дзяцінства!**

— Ды не. Бадай, самае памятнае — гэта бацька з эцюднікам і кветкамі ў руках. Такім я яго бачыла часта. У мой першы школьны дзень ён падарыў мне букет цудоўных чайных ружаў. І цяпер памятаю іх водар. Але я была ўзрушана не толькі прыгажосцю кветак, а і самім фактам увагі да мяне, першакласніцы, дарослага чалавека — майго бацькі. А якія кветкі ён вырошчваў, калі мы нарэшце пераехалі ў свой дом! Нават пралескі лясныя ў нашым садзе цвілі. Дагэтуль у суседзяў растуць ружы і дрэвы, якія пасадзіў мой бацька.

Ён хацеў і ўмеў рабіць сваімі рукамі шмат чаго. Колькі жыў у гэтым доме, столькі і дабудоўваў, перабудоўваў яго. Цяпер я гэтым займаюся. Вось старую веранду разабрала — майстэрня атрымалася. Адзін вугал давялося "скасіць" — упіраўся ў бацькаву грушу.

**— Святлана Сяргееўна, бацька вам быў вельмі блізкі!**

— Так. Я была да яго вельмі прыхільная. Палюбіла яго ўжо тады, калі яшчэ ніводнага разу ў жыцці не бачыла (я нарадзілася ў эвакуацыі). Любіла па яго лістах з фронту — у кожным з іх абавязкова былі малюнкі... Калі стала вядома, што бацька нарэшце вяртаецца з вайны (яму давялося ваяваць і на Маньчжурскім фронце), у мяне ад хвалявання і радасці нават тэмпература паднялася.

З бацькам заўсёды было цікава. Як ён ёлку навагоднюю ўпрыгожваў — мора фантазіі! Гэта прыносіла задавальненне ўсім. А Зойцы, унучцы, такія дзівосныя казкі прыдумваў пра ўсіх нас, членаў сям'і, пра суседзяў... Зоі было ўсяго толькі шэсць гадоў, калі яго не стала, але дзядуля жыве ў яе памяці і па сённяшні дзень.

**— Дух дому, што яго вызначала раней і цяпер!**

— Дух дому... Гэта ідзе ад унутранага святла чалавека і саграваe ўсіх. Як і павінна быць у прыродзе, усё было ў нашым доме звязана з бацькам, яго аўтарытэтам. Бацька ніколі не лаяўся, не мацюкаўся. Дом наш заўсёды быў гасцінным, ды і людзей цягнула да бацькі, мала было такіх, хто ставіўся да яго абыякава.

Мама любіла гатаваць, частаваць. У іх з бацькам склаўся добры саюз — яна была яму памочніцай. І памерла праз год пасля яго, хаця на цяжкія хваробы не хварэла. Проста яна не вынесла расстання: згубіўся сэнс жыцця, хаця і дзеці, і ўнукі былі побач.

Прайшло ўжо больш за дваццаць гадоў, але я жыву адчуваннем прысутнасці маіх бацькоў у гэтым доме. Яны, як анёлы-захавальнікі, асцерагаюць мяне з дачкой і ўнукам.

**— Гавораць, жанчына павінна быць утульнай... Як гэта разумееце вы!**

— Толькі не па-мяшчанску — сурвэтачкі, падушачкі, сю-сю, сю-сю. Утульная жанчына — мудрая, добразычлівая, якая жадае дабра ўсім сваім дамачадцам і ўсяму свету. Халодная, разважная такой быць не можа.

**— Святлана Сяргееўна, бацька быў вашым першым настаўнікам, праваднікам у свет мастацтва!**

— У прамым сэнсе ён не апякаў мяне. Бацька быў вельмі заняты ў дзіцячай студыі выяўленчага мастацтва, якую ён стварыў яшчэ да вайны, у 37-м. Да таго ж ён быў старшынёй мастацкага фонду Саюза мастакоў, узначальваў мастацкі савет... Але затое бацька заўсёды браў мяне ў паездкі, якія арганізоўваў для дзяцей са студыі. Для іх ён быў усім — і першым настаўнікам, і бацькам, і поварам... Студыйцы памятаюць пра гэта і зараз, праз шмат гадоў. Некаторыя з іх сталі вядомымі мастакамі — Данцыг, Стэльмашонак, Шчасная, Забораў...

І ўсё ж у адносінах да мастацтва бацька адыграў для мяне і маёй сяброўкі Зоі Ліцвінавай вялізную ролю. Адкрыў бязмежнасць прыроды, музыку фарбаў...

**— Відаць, таму на вашых палотнах шмат кветак, яны даюць адчуванне свята. Вось як і гэта нясконачаная работа, што на мальберце...**

— Несумненна, бацька паўплываў на тэматыку маіх работ. Але да ўсяго мой дзень нараджэння ў жніўні. Месяц мною вельмі ўпадабаны, бо ён дорыць шмат кветак і пладоў. Сябры мне таксама дораць у дзень майго нараджэння шмат кветак. На гэтым нясконачаным палатне якраз сёе-тое з апошніх букетаў...

Ды і не хочацца маляваць будні. Навошта бачыць жыццё заўсёды дрэнным, шэрым. Хочацца ў творчасці ўзняцца над бытам, настроіцца на ўзвышаныя пачуцці. Я вельмі люблю за гэта Сар'яна, Паўла Кузняцова...

**— А над чым вы працуеце яшчэ!**

— У нас дома захоўваецца унікальны архіў дзіцячых малюнкаў, якія бацька збіраў на працягу дзесяцігоддзяў. Архітэктар Левін, адзін са стваральнікаў мемарыяла "Хатынь", зараз працуе над помнікам усім дзецям, якія загінулі ў час вайны. Ён вырашыў выкарыстаць некаторыя з гэтых малюнкаў, і я пераношу іх на кардон у натуральную велічыню, неабходную для вітражоў. Справа ў тым, што помнік будзе нагадваць школьны клас — на яго фоне дзяўчынка, якая закрываецца рукамі ад налёту самалётаў, а паміж партамі — мальберты з дзіцячымі малюнкамі.

Я ўгаварыла Левіна, каб малюнкі былі выкананы менавіта ў тэхніцы вітражу, бо гэта, як мне здаецца, найбольш адпавядае задуме: свет вачыма дзяцей у малюнках часта нагадвае мазаічную гульню — калейдаскоп. Малады мастак Аляксей Велікжанаў узяўся выканаць дзевятнаццаць вітражоў. Але Левін задумаў у далейшым папаўняць помнік новымі вітражамі. Для адбору лепшых малюнкаў з дзіцячых конкурсаў ён заручыўся падтрымкай польскага, нямецкага, ізраільскага пасольстваў.

**— Мастакам і ў даўнія часы жылося не вельмі заможна, а цяпер, калі музеі і галерэі амаль не робяць ніякіх набыткаў... Вашы работы таксама не прадаюцца!**

— Ну чаму ж? Вось прыходзіў да мяне ў майстэрню мексіканскі калекцыянер — 13 палотнаў купіў. Абяцаў нават там у сябе каталог выпусціць, выставу маю наладзіць і мяне запрасіць.

Адшукваюць мяне па падказцы сяброў і іншыя замежныя калекцыянеры. Праўда, не вельмі хочацца, каб твае работы ў прыватныя рукі траплялі — гэта як у склеп пад замок. Іншая справа, калі яны ў галерэю ідуць — аб гэтым кожны мастак марыць, яму важна, каб яго работы людзі бачылі.

**— Вы шчаслівы чалавек!**

— Напэўна, так. Я жыву ў сваім доме, змагла ўсе гэтыя гады падтрымліваць яго, не разбазарыла спадчыну сваіх бацькоў. У мяне захапляючая справа, любімая прафесія, любімыя ўнук і дачка. Зоя ўжо заявіла аб сабе як цікавы мастак. Дзіўная справа: калі яна была зусім малой, дзед чамусьці больш у ёй, чым ува мне, бачыў сваю творчую наследніцу і звязваў з ёю вялікія надзеі. Няхай жа яны спраўдзяцца!

* * *

**...Я пакідала гэты дом ужо надвячоркам. Праводзілі мяне з запрашэннем прыходзіць папросту, без цырымоній. Ля брамкі ўручылі пакет з вялізнымі грушамі (так ужо заведзена ў гэтым доме: госця з пустымі рукамі не адпускаць) з той самай грушы, якую шмат гадоў таму пасадзіў Сяргей КАТКОЎ.**

**Маргарыта СТАРЫХ.**

*Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.*

# ЛІСТАПАДАЎСКІ КАЛЯНДАР ЗНАМЯНАЛЬНЫХ ДАТ

**1 лістапада** — 130 гадоў з дня нараджэння Дзмітрыя ДАЎГЯЛЫ (1868—1942?), беларускага гісторыка, архівіста, археографа, крыніцазнаўцы.

125 гадоў з дня нараджэння Івана ЗАМОЦІНА (1873—1942), беларускага і рускага літаратуразнаўцы, акадэміка АН БССР.

65 гадоў з дня нараджэння Вячаслава АДАМЧЫКА, беларускага пісьменніка.

**6 лістапада** — 115 гадоў з дня нараджэння Язэпа ЛЁСІКА (1883—1940), беларускага грамадскага дзеяча, мовазнаўцы, пісьменніка, педагога.

**8 лістапада** — 115 гадоў з дня нараджэння Вацлава ЛАСТОЎСКАГА (1883—1938), беларускага палітычнага дзеяча, гісторыка, этнографа, пісьменніка, акадэміка АН Беларусі.

100 гадоў з дня нараджэння Дзмітрыя ЗАХАРА, беларускага дырыжора, выканаўцы-інструменталіста, рэжысёра, кампазітара.

90 гадоў з дня нараджэння Міхася БАГУНА (Блошкіна) (1908—1938, паводле іншых крыніц — 1937), беларускага пісьменніка.

70 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра ЛЯПЁШКІНА, беларускага паэта, заслужанага настаўніка Беларусі.

**10 лістапада** — Сусветны дзень моладзі.

90 гадоў з дня нараджэння Баяна МІРАЛЮБАВА (1908—1989), беларускага археолага і краязнаўцы.

**12 лістапада** — 175 гадоў з дня нараджэння Паўла ШПІЛЕЎСКАГА (1823—1861), беларускага і рускага этнографа, пісьменніка.

**14 лістапада** — 60 гадоў з дня нараджэння Валерыя САРОКІ, беларускага скрыпача, заслужанага артыста Беларусі.

**16 лістапада** — 100 гадоў з дня нараджэння Вінцэнта ГАДЛЕЎСКАГА (1898—1924?), беларускага палітычнага, грамадскага і рэлігійнага дзеяча.

**18 лістапада** — 60 гадоў з дня нараджэння Станіслава ГАРАЧАВА, беларускага жывапісца.

**19 лістапада** — 90 гадоў з дня нараджэння Міколы ЗАСІМА (1908—1957), беларускага паэта.

**20 лістапада** — 50 гадоў з дня нараджэння Яўгеніі ЯНІШЧЫЦ (1948—1988), беларускай паэткі.

**27 лістапада** — 95 гадоў з дня нараджэння Піліпа ПЕСТРАКА (1903—1978), беларускага пісьменніка.

60 гадоў з дня нараджэння Зоі ЛІТВІНАВАЙ, беларускага жывапісца.

**28 лістапада** — 70 гадоў з дня нараджэння Анатоля ЧАРКАСАВА, беларускага пісьменніка.

**29 лістапада** — 90 гадоў з дня нараджэння Яўгена КРАСОЎСКАГА (1908—1980), беларускага жывапісца, графіка.

**30 лістапада** — 210 гадоў з дня нараджэння Казіміра БУЙНІЦКАГА (1788—1878), публіцыста, пісьменніка, краязнаўцы.

**Лістапад** — 75 гадоў таму пачало сваю дзейнасць аб'яднанне беларускіх савецкіх пісьменнікаў "Маладняк" (існавала з лістапада 1923 да лістапада 1928 года).

# ЛАСТАЎКА ВЯСНЫ

### ДА 50-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯЎГЕНІІ ЯНІШЧЫЦ

● Раіса БАРАВІКОВА



Ластаўка вясны. Так цяпер многія называюць яе, выдатную беларускую паэтэсу Жэню Янішчыц. І гэты, ужо крануты зімовым халадком сёлетні лістапад асветлены яе імем. Калі б лёс расклаўся па-іншаму, Жэня адзначала б свой першы высокі юбілей, але так сталася, што ўсе юбілейныя ўрачыстасці адбываюцца без яе. У Таварыстве дружбы ладзіцца вечарына, на Піншчыне, дзе нарадзілася і вырасла Яўгенія Янішчыц, Саюз беларускіх пісьменнікаў праводзіць свята Паэзіі, у школе, дзе яна вучылася, адкрываецца музей, нават у Балгарыі выйшла кніга ейнай чароўнай лірыкі, а Жэні ўжо дзесяць гадоў, як няма з намі. Горка. Балюча. Кажуць, калі нараджаецца Паэт, у небе запальваецца зорка. А калі Паэт адыходзіць ад нас у іншы свет? Ён пакідае нам свае вершы, напісаныя, народжаныя пад гэтай зоркай.

Зорка Жэні Янішчыц — яркая, трапяткая, агністая, як і яе вершы, якія яна сама руплівa складала ў кніжкі: "Зімовыя грамніцы", "Дзень вечаровы", "Ясельда", "На беразе пляча", "Пара любові і жалю", "Каліна зімы"... Лірыка лёгкага крыла, лірыка гарачага дыхання, глыбокага, поўнага любові позірку на Бацькаўшчыну, на роднае Палессе, на каханага, на ўвесь свет, і ўсё гэта — вялікі светлы талент — Божы пацалунак, якім адарылі яе нябёсы, а яна — усю нашу паэзію, пакінуўшы ў ёй адну з самых трапяткіх старонак.

Перагортваю яе кніжкі, спыняюся на асобных вершах, з-за радкоў выплываюць успаміны... Танюткая, як чарацінка, з выразнымі яснымі вачыма, з вераю, што "свет багаты на любоў". Напэўна, гэтак яно і ёсць: усё, што не паспелі сказаць мы ёй пры жыцці, — кажам цяпер. І здаецца, што над Беларуссю, над усёй нашай Бацькаўшчынай звіняць яе радкі: "Дай ласкавую руку... Старана мая азёрная". І адказам тут можа быць толькі несмяротнасць. Будуць прыходзіць і адыходзіць пакаленні, будуць мінацца стагоддзі, і кожнае з іх знойдзе ў паэзіі Жэні Янішчыц сваю пару любові і жалю.

● Яўгенія ЯНІШЧЫЦ

* * *

Будзе слоту абвяшчаць прагноз,
Лістабой учыніць ператруску.
Песняй, што расчуліла да слёз,
Я прыму цябе па-беларуску.

Краю блаславёнага дачка,
Дзякуй лёсу,
маю не ў нагрузку —
Зорны крык Мацея Бурачка...
Ты ўва мне прызнаеш беларуску!

Сто разоў шукай другой красы,
А тым больш, што свет даўно не вузкі!
...Ды калі ты не бязродны сын —
Гавары са мной па-беларуску.

Час — вар'ят, шалёнае таксі.
Толькі ўсё ж не мыслю я аб спуску.
Кажаш, што магілы зараслі!
Памаўчы са мной па-беларуску.

## ЦІХАЯ ПЕСНЯ

Слухаючы канцэрт эмігрантаў
у Нью-Джэрсі

*Толькі верасу пальцы
настрояць душы твaёй струны.*
*Данута Бічэль-Загнетава.*

Ты прарвешся, нібыта ў сакрэце,
З ноты першай, што ўзяў салавей,
Пакалення другога ці трэцяга
Эмігранцкіх сямей!

Дыяменцікі глебы... — бы з сотаў
Мёд струменіць на донца каўша.
Эмігрырые розум. І ўсё-такі
Застаецца балючай душа.

У царкве, на харальнай сцэне,
Як цвіце незамглёны твой строй!
Захліпнулася песня, ўзляцела
І назвалася ціха сястрой.

А чаму ж зажурылася маці?
Дзе ж ваш, мальцы, здарожыўся конь!
Толькі верасу чуйныя пальцы!
Толькі позняй рабіны агонь!

Як грамнічную свечачку, лэдзі
Ускрыліла малітву ў сабе.
Хто ж, душа, цябе так развярэдзіў!..
А крынічка з-пад кораня б'е.

## КАХАННЯ САД І ЛАСТАЎКА ВЯСНЫ

І дождж, і гром, і несціханы вецер,
І першы клейкі лісцік выразны!
...Абуджваюць балючае дасвецце
Кахання сад і ластаўка вясны.

Яшчэ з табой мы павяснуем, доля,
Бо соты раз, яе позва адкрыцця —
У светлыні агромленага голля
Кахання май і ластаўка жыцця.

Вясна, агонь зялёнага азарту,
Люблю твайго размаху крыгаход...
Зялёны сад — ён стане жоўтым заўтра,
Але нальецца тайнай сілай плод!

Аціхне шум. Ацяжалее крона.
Ды зноў успыхне лісцік выразны.
І блаславіць нашчадак акрылёна
Кахання сад і ластаўку вясны.

## У ШУМЕ ЖЫТНЯГА СВЯТЛА

Яшчэ расці маёй трывозе
І не любіць — на паўкрыла.
Убачу маму на дарозе
У шуме жытняга святла.

І покуль гэты поўдзень спелы
Дым тарфяны не завалок,
На зрэзе дня — рамонак белы
І пасівелы васілёк.

Снуецца белая сцяжына —
Апошні збег майго сяла.
Гняздзечка птушкі і ажына —
У шуме жытняга святла.

І покуль дыхае планета,
Не вынішчаецца датла
Душа народа і паэта
У шуме жытняга святла.



# НОВЫЯ КНІГІ

## ПА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ПРА БЕЛАРУСЬ І ЯЕ ЖЫХАРОЎ

**Масляніцына І.** Скрэва — прамаці крывічоў: [Спасылаючыся на "Вялесаву кнігу" — помнік славян. культуры IX ст., — аўт. прыводзіць версію, паводле якой і назву і свой пачатак племя крывічоў займела ад скіфскай царэўны Скрэвы, якая жыла ў VII ст. да нараджэння Хрыста] // Беларусь. 1998. № 2. С. 33. (Беларусь далетапісная).

**Цьвікевіч А.** Пагляд П. Бязсонава на беларускую справу: [Аналізуецца тэкст прадмовы да зб. "Бел. песні" (1871 г.), складз. рус. фальклярыстам-славістам і гісторыкам літ. Пятром Аляксеевічам Бяссонавым (1828—1898), дзе выказаны адносіны да Беларусі, яе гісторыі, культуры, мовы і інш.: Друкуецца па: адбітак "Бел. Сьцягу" (Коўна, 1922 г.)] / Прадм. А. Ліса "Самотны сярод абрусіцеляў, або Некалькі слоў пра Пятра Бяссонава" (с. 31—37) // Спадчына. 1997. № 6. С. 38—72.

### Мінулае далёкае і блізкае

*(Матэрыялы раздзела размешчаны ў храналогіі апісаных падзей)*

**История Беларуси:** [С древ. времен до середины 90-х гг. XX в.]: Учеб. пособие для вузов, колледжей, лицеев, гимназий и школ / В. В. Григорьева, В. П. Емельянчик, Ю. Л. Казаков и др.; Науч. ред.: А. Г. Кохановский, О. А. Яновский; БГУ. Ист. фак. — Мн.: МП "Беларыт", 1997. — 446 с. — 10 000 экз.

**Адамовіч Т.** Беларускі шлях: [З гісторыі экан., паліт. і культур. руху: Ад старажытнасці да нашых дзён] // Беларусь. 1998. № 2. С. 42—47. (Погляд аналітыка).

**Акіншэвіч Л.** Парлямэнт беларускай зямлі: [З гісторыі развіцця дзярж. ладу некаторых народаў. Знач. частка арт. прысвеч. бел. дзяржаўнасці ў X—XVI стст.] / Падрыхт. тэксту У. Арлова // Спадчына. 1997. № 6. С. 16—30.

**Григорьев А. Д.** Очерки истории социальной работы на Беларуси [X—XX вв.] / М-во образования Респ. Беларусь. Бел. гос. пед. ун-т им. М. Танка. — Мн., 1998. — 221 с. — Библиогр.: с. 204—213. Словарь: с. 214—218. Список основных дореволюцион. периодич. изд., публиковавших ст. по вопр. соц. помощи нуждающимся: с. 219—220. — 300 экз.

**Казлоў Л. Р.** Беларусь на сямі рубяжах (XI — пачатак XX стст.): [На аснове дак. і картаграф. крыніц разглядаецца гісторыя фарміравання граніц Беларусі]. — [2-е выд., дап.]. — Мн.: ВКП "Арты-Фэкс", 1998. — 35 с. Бібліягр.: с. 34—35 (105 назв.). — 300 экз.

**Кулеш А. Ф.** Женщина. Ее судьба и роль в истории [Беларуси, XIV — XV вв.] // Оникс. 1998. № 4. С. 5—6.

**Асіноўскі С.** "Чорная смерць": [Пра эпідэмію на тэрыторыі Беларусі на працягу XIV — XIX стст. і сродках барацьбы з імі] // Бел. Мінуўшчына. 1998. № 1. С. 58—64.

(Працяг будзе).

**1998-мы – ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА**





У літаратурным музеі Янкі Купалы ў Мінску адкрылася выстава "Адам Міцкевіч і Янка Купала". Экспазіцыя прысвечана 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча. На творах паэта, па прызнанні Янкі Купалы, ён вучыўся паэтычнай мове, а потым многа вершаў і паэм Міцкевіча перакладаў на беларускую мову. Абодва класікі ўзбагацілі культуру і літаратуру беларускага народа.

НА ЗДЫМКАХ: аб жыцці двух паэтаў расказвае школьнікам супрацоўнік музея Глафіра КУШАЛЬ; рукапісы Адама МІЦКЕВІЧА.

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.*

## КОНКУРС

**БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА ДРУЖБЫ І КУЛЬТУРНАЙ СУВЯЗІ З ЗАРУБЕЖНЫМІ КРАІНАМІ І РЭДАКЦЫЯ ГАЗЕТЫ "ГОЛАС РАДЗІМЫ" ЗАПРАШАЮЦЬ ДА ЎДЗЕЛУ Ў КОНКУРСЕ**

## «БЕЛАРУСЬ У МАІМ СЭРЦЫ»

У КОНКУРСЕ МОГУЦЬ ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ ЧЫТАЧЫ І ПРАФЕСІЯНАЛЬНЫЯ ЖУРНАЛІСТЫ, ЛІТАРАТАРЫ, УСЕ, КАМУ ЎЛАСЦІВЫЯ САМАСТОЙНАЕ АСЭНСАВАННЕ І ТВОРЧАЕ АДЛЮСТРАВАННЕ НАВАКОЛЬНАГА СВЕТУ, УСЕ, ХТО ХОЧА ПРЫЗНАЦЦА, ЧЫМ ДАРАГІ ЯМУ БЕЛАРУСКІ КРАЙ І ЯГО ЛЮДЗІ.

ПЕРАМОЖЦЫ ЗМОГУЦЬ ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ У РАЗНАСТАЙНЫХ МІЖНАРОДНЫХ ПРАЕКТАХ ЦІ АДПРАВІЦЦА Ў ЦІКАВУЮ ТВОРЧУЮ ПАЕЗДКУ.

АД ЧЫТАЧОЎ ЧАКАЕМ ШЧЫРЫХ ДОПІСАЎ, АД ЛІТАРАТАРАЎ І ЖУРНАЛІСТАЎ — ТВОРАЎ РОЗНЫХ ЖАНРАЎ, ФОТАРАБОТ.

СПОРТ

## «ЗАЛАТЫ» ЖУРАВЕЛЬ У НЕБЕ

● **Вячаслаў ДУТАЎ**

Калі мінчанка Таццяна Марозава выканала на дарожцы каскад найскладанейшых элементаў, мала хто сумняваўся ў яе перамозе на чэмпіянаце свету па акрабатыцы. Пасля захопу лідэрства ёй заставалася толькі чакаць выступлення славутай расіянкі Наталлі Рахманавай. І вопытная спартсменка пайшла на рызыку, уключыўшы ў сваю кампазіцыю скачок з трайным сальта. У выніку дзвюх спроб у саперніц аказалася аднолькавая сума балаў. Аднак па складанасці выканання перавага была аддадзена расіянцы.

Гэта быў, бадай, самы захапляючы эпізод на чэмпіянаце свету па спартыўнай акрабатыцы, што прайшоў у Мінску і ў якім удзельнічалі прадстаўнікі 22 краін. У ліку фаварытаў спаборніцтваў былі і нашы спартсмены, якія, на думку спецыялістаў, выступілі паспяхова, заваяваўшы дзве сярэбраныя і чатыры бронзавыя ўзнагароды. Следам за Марозавай, у якой у активе таксама бронзавы медаль, другое месца заняла беларуская змешаная пара Святлана Ярсарына — Дзмітрый Яцэнка. Дзве бронзы — на рахунку гомельскага дуэта ў складзе Кацярыны Ракчэевай і Аксаны Феакціставай. На трэцюю прыступку п'едэстала гонару падымаўся малады скакун Ігар Адаменка.

Падводзячы вынікі выступленняў беларускіх спартсменаў, адзін з трэнераў Георгій Трусаў прызнаўся, што ён і яго калегі ў некаторых дысцыплінах разлічвалі і на "золата". Прычым гэтыя абгрунтаванні будаваліся на рэальных магчымасцях падапечных, якія мелі ў сваіх "арсеналах" дастатковы запас для самага высокага ўзлёту. Але не дапамаглі... родныя сцены. Перад землякамі, якія перапаўнялі трыбуны мінскага Палаца спорту, кожнаму хацелася выступіць як мага лепш. А ў акрабатыцы, як вядома, хваляванне катэгарычна забаронена.

Што ж тычыцца самога чэмпіянату, то яго арганізатары атрымалі самую высокую ацэнку. "Калі зыходзіць з нашай ацэначнай шкалы, — сказаў карэспандэнту БелТА прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі спартыўнай акрабатыкі Стоіл Саціраў, — то я выставіў бы ім 10 балаў.

А яшчэ сталіца Беларусі ўсім запомніцца тым, што на кангрэсе было прынята рашэнне аб аб'яднанні дзвюх міжнародных федэрацый — акрабатыкі і гімнастыкі, а гэта адкрывае прадстаўнікам віртуознага віду спорту дарогу на Алімпійскія гульні.

НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

# У КАРЦІНЕ НАВАТ РАМКА — НЕ ДРОБЯЗЬ

● **Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ**

Дзяўчынка Аня, гадкоў трох, за столікам лепіць з пластыліну розныя фігуркі.

— Будзеш, як дзед, — мастаком? — пытаю ў яе.

— Ага, — і сарамліва апусціла вочкі.

— Яна малайчына, — задаволена сказаў Юрый Гагін. — Можа, пойдзе маёй дарогай.

А дарогай мастака Юрый Аляксандравіч ідзе ўсё жыццё. Сотні карцін намаляваў. Розныя яны па зместу, па тэме. Але ва ўсе ўкладзены роздум мастака пра жыццё, пра бачанае і перажытае.

Уражвае палатно, на якім адлюстраваны Нёман. Ён цячэ побач са Стоўбцамі. Як Ю. Гагін, і я сотні разоў бачыў яго, купаўся ў ім, загараў на яго берагах, любаваўся яго прыгажосцю. А Юрый Аляксандравіч глянуў на Нёман па свойму — і на палатне рака глядзіцца велічнай красуняй.

Узрушыла мастака чарнобыльская трагедыя. Свае пачуцці ён выказаў у карціне, на якой — устрывожаныя маці і сын. Так і чуецца іх клопат: што з намі будзе, як жыць, што рабіць? У гэтых дзвюх постацях бачыцца трывога за лёс Беларусі, яе народа.

Сімвалічная карціна "Паварот" — роздум Юрыя Гагіна пра гістарычную падзею — распад Савецкага Саюза, калі адбыўся паварот у гісторыі, лёсе ўкраінскага, беларускага і рускага народаў. На карціне мужныя рукі трымаюць штурвал часу, які набыў новую плынь.

Працуе Ю. Гагін і ў жанры партрэта. На палотнах — бацька і жонка. Прыемныя, добрыя твары. Разумныя вочы.

Уся кватэра Ю. Гагіна ўпрыгожана яго карцінамі. Некаторыя, незавершаныя, неўзабаве стануць таксама прыгожымі палотнамі.

— У карціне ўсё павінна быць прадумана. Да драбніц, — лічыць Юрый Аляксандравіч. — Нават рамка ў кожнай павінна быць свая . Рамка — не дробязь. Яна таксама служыць раскрыццю задумы, стварэнню таго настрою, які ўкладвае ў карціну мастак.

Творы Ю. Гагіна са Стоўбцаў вядомыя далёка за межамі Беларусі. Яны экспанаваліся на выставах у Ліпецку, Мурманску, іншых гарадах. У Маскве яго работы адзначаны бронзавым медалём ВДНГ, дыпломам Саюза мастакоў.

У Юрыя Гагіна шмат задум. Працуе ён з задавальненнем, натхнёна. І гэта гарантыя таго, што ў мастака будуць новыя творы, напоўненыя радасцю жыцця, роздумам пра яго.





**Мастак Ю. ГАГІН і яго карціна.** *Фота Віктара СТАВЕРА.*


**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 2045. Падпісана да друку 16. 11. 1998 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**